


# БЕЛАРУС

**№451 • Люты 1998 г.**
Год выд. 48

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**


## Год дыктатуры

### *Вынікі 1997-га й пэрспэктывы 1998-га*

Мінуў 1997 год. Чым ён адзначыўся ў гісторыі, чым застаўся ў штодзённым беларускім жыцьці? Першая палова году — гэта цяжкая палітычная бітва за Беларусь.

Рознае стаўленьне да ўмоваў анэксіі Беларусі раскалола расейскі палітычны Алімп на два лягеры.

Гэта дало магчымасьць беларускім вызвольным сілам адстаяць *status quo* Беларусі ў тым стане, які трываў дагэтуль. Народнаму Фронту гэтая барацьба каштавала вялікіх ахвяраў. Але ніводная зь іх ня была дарэмнай.

Летам пасьля цяжкай змагарнай вясны адбыўся V зьезд Беларускага Народнага Фронту, які падсумаваў вынікі змаганьня й акрэсьліў пэрспэктывы Вызвольнага Руху. Пасьля зьезду адбыўся спад актыўнасьці вызвольных сілаў. Гэта адразу выкарысталі рэжым і Масква, правёўшы шэраг сваіх прапагандысцкіх ініцыятываў. Крэмль і ўлады Беларусі ведалі, што БНФ рыхтуе кампанію па адстаўцы Лукашэнкі й пэрманэнтную акцыю збору подпісаў за адхіленьне яго ад пасады прэзыдэнта. Таму яны рабілі захады, каб перашкодзіць гэтаму, выкарыстоўваючы супраць БНФ усе сродкі, нават так званы «незалежны», варожы беларускай ідэі таблёідны друк.

15 сьнежня Народны Фронт пачаў збор падпісаў за адстаўку прэзыдэнта. Кампанія паволі набірае сілу. Рэакцыя рэжыму ня прымусіла сябе доўга чакаць. Ужо ў першай палове студзеня афіцыёзнае тэлебачаньне аб'явіла, што рыхтуецца змова Народнага Фронту супраць Лукашэнкі, якую быццам-бы фінансуе Захад. Назвалі нават суму — 32 мільёны даляраў.

Канец 97-га й пачатак новага 98-га году праходзіць пад знакам вызваленьня з турмы маладых беларускіх палітвязьняў В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага, В. Кабанчука. Лёсам трох кінутых у турму юнакоў занепакоены беларусы ня толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі, асабліва ў Амэрыцы. Дзеля вызваленьня хлопцаў інсьпіруецца міжнародны прэсынг на лукашэнкаўскую адміністрацыю.

Палітычны вынік году, не зважаючы на барацьбу палітычных сілаў і супрацьстаяньне, аказаўся нулявы. І грамадзтва, і палітычная сытуацыя засталіся фактычна на тых-жа пазыцыях, што й у канцы 96-га. 15 сьнежня 1996 г. у польскім часапісе *Wprost* (№ 50) я адзначаў, што «у бліжэйшы час, напэўна, будуць арганізаваныя дзеяньні, каб напачатку 1997 году пачаць злучэньне або можа стварэньне нейкай канфэдэрацыі з Расеяй. Гэта выяўленьне маскоўскай палітыкі захопу Беларусі. Лукашэнка рэалізуе яе ад пачатку як агент КГБ і марыянэтка Масквы».

Ужо 14 студзеня 1997 году Ельцын выступіў зь лістом да Лукашэнкі аб «інтэграцыі» Беларусі з Расеяй. Так пачаўся 2-гі акт подлага палітычнага спэктаклю, які доўжыўся ўсю вясну 97-га году й абярнуўся для Беларусі акупацыйнай драмай. Мы бачым, якім цяжкім было змаганьне. Але й гэтым разам Народнаму Фронту ўдалося ўтрымаць нацыянальныя пазыцыі.

Як складзецца трэці акт акупацыйнага фарсу, што павінен пачацца ў гэтым годзе, — сказаць цяжка, але два моманты трэба адзначыць. Першы — Беларусь і Народны Фронт перамогуць (павінны перамагчы) і другі — Масква разам з Лукашэнкам будуць ісьці напралом, не зважаючы ні на якія законы, ні на якое права, ні на якія міжнародныя нормы й ні на якую мараль.

У 1997 г. на Беларусі была праведзена грунтоўная падрыхтоўка да рэпрэсіяў. У сфэры дыктатарскага «заканадаўства» прыняты шэраг антыдэмакратычных актаў, «ператрэсены» кіраўнічы апарат. Праведзены таксама й пэўныя перастаноўкі ў Крамлі. Трэба чакаць тактыкі замоўчваньня інфармацыі аб закулісных пактах ды пагадненьнях і пры гэтым шумных ініцыятываў для адцягненьня ўвагі. Грамадзтва зноў паставяць перад фактам. Вядома, што беларускі Вызвольны Рух напаткаюць выпрабаваньні. Галоўнае будзе залежаць ад яго дзеяньняў і ад таго, наколькі зможа беларускае грамадзтва ў гэтых умовах аб'яднацца вакол беларускай нацыянальнай ідэі й Вызвольнага Руху. Чарговых атакаў рэжыму на беларускую дзяржаўнасьць і сувэрэнітэт можна чакаць ужо ў сакавіку. Беларусам трэба мацаваць ня толькі аргумэнты, але салідарнасьць і сілу. Нявыключана, што будзе зроблена спроба ўвесьці агульнае грамадзянства з Расеяй, зноў захочуць ліквідаваць сувэрэнітэт і незалежнасьць Беларусі, ажыцьцявіць анэксію.

Усё здаровае грамадзтва, усе беларусы павінны рыхтавацца абараніць Беларусь.

1997 год зноў засьведчыў, што рэжым Лукашэнкі, ня маючы ідэйнага абгрунтаваньня, карыстаецца расейскай акупацыйнай ідэалёгіяй, практычная сутнасьць якой мае выразны камуна-фашысцкі характар.

Гэты год павінен быў-бы паглыбіць крызыс рэжыму ў Беларусі. Беларусы, аднак, мусяць памятаць, што ніякія пабочныя фактары ня будуць вырашальнымі. Галоўнае залежыць ад саміх беларусаў.

Вызвольны шлях павінен складацца з такіх чыньнікаў, як актывізацыя Вызвольнага Руху ва ўсіх сфэрах і ўсімі спосабамі, збор подпісаў за адстаўку прэзыдэнта, усеагульныя масавыя выступленьні за ліквідацыю сыстэмы прэзыдэнцтва на Беларусі й за правядзеньне новых парляманцкіх выбараў на аснове Канстытуцыі 1994 г. Пасьля выбараў будуць адноўленыя парлямантарызм і законнасьць, улада й інстытуцыі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Цяжкі 1998 год павінен паставіць на парадак дня шмат якія пытаньні, рэалізацыя якіх мусіць адбыцца. Пазьней 1998-м году, мяркуючы па беларускім палітычным пасьянсе, наканавана стаць вызначальным. Што зьвяжацца ў 98-м, тое разьвяжацца ў 99-м. Разумеючы гэта, мы, беларусы, павінны адпаведна рупіцца пра нашу будучыню.

**З. Пазьняк**

## ПОШУК ВОРАГАЎ ПРАЦЯГВАЕЦА

У студзеньскім нумары (№ 450, нататка «Ізноў ворагі») мы паведамлялі пра чарговую «качку» лукашэнскаўскай тэлевізіі пра атрыманьне З. Пазьняком ад ЗША 32-х мільёнаў даляраў на "падрыўную дзейнасьць».

2 лютага казачнікі зь Беларускага Тэлебачаньня зноў узгадалі сваю саматужную байку, прыдумаўшы працяг, быццам на выдзеленыя для БНФ грошы ў Беластоку створаны «падрыўны цэнтар». Відаць, менавіта тут павінны вырабляцца атручаныя кулі й таблеткі з цыяністым каліем.

Міфатворчасьць БТ мела пэўную падставу: у сапраўднасьці ў Беластоку створаны Цэнтар Грамадзянскай Адукацыі «Польшча–Беларусь», які ставіць на мэце рэалізацыю інфармацыйных і адукацыйных праектаў. Дарэчы, на адкрыцьці цэнтру прысутнічаў прадстаўнік афіцыйных беларускіх уладаў — М. Крэчка, генэральны консул Беларусі ў Беластоку. Няўжо таксама «падрыўнік»?

## НАЙЛЕПШЫ СПОСАБ РАБАВАНЬНЯ

Падатковыя органы Беларусі стварылі праект новага закону «Аб дэкляраваньні фізычнымі асобамі прыбыткаў, маёмасьці й крыніц грашовых сродкаў».

Прыняцьце такога закону можна было-б толькі вітаць, калі-б гэта мела месца ў краіне з рынкавай экономікай. Аднак ва ўмовах рэкамунізаванай Беларусі падобны акт ператвараецца ў сродак яшчэ больш жорсткага рабаваньня грамадзянаў дзяржаўнымі органамі.

Вядома, вастрыё закону скіраванае найперш у бок парадзелых шэрагаў прадпрымальнікаў. У канцы студзеня яны адказалі на ўзмацненьне падаткавага прэсынгу страйкамі: амаль па ўсёй краіне не працавалі рэчавыя рынкі.

Аднак новы закон ў большай ці меншай меры закране кожнага. Падаткі мяркуецца зьбіраць з усіх і з усяго, нават з працэнтаў па ўкладах у дзяржаўным Ашчадным Банку!

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# БЕЛАРУСКАЯ ДЭКЛЯРАЦЫЯ СВАБОДЫ

У выніку двух стагодзьдзяў «каляніяльнага разьвіцьця» Беларусь амаль што згубіла смак свабоды й страціла сваё месца ў супольнасьці вольных эўрапейскіх народаў.

На працягу трох апошніх гадоў незалежная Беларусь набывала вядомасьць у сьвеце як краіна з дыктатарскім рэжымам у цэнтры Эўропы.

На сёньня беларускае грамадзтва дасягнула моманту, калі канфармізм, калектыўнае рабства, таталітарная ідэалёгія й несвабода навязваюцца большасьцю ў якасьці ўсьвядомленага выбару дзеля выжываньня.

«Скуты розум» спрабуе паставіць пад кантроль усе свабодныя інтэлектуальныя, культурныя й сацыяльна-эканамічныя ініцыятывы, «аднамерны чалавек» у Беларусі пагражае каштоўнасьцям эўрапейскай дэмакратыі й культуры.

Агульнавядома, што Беларусь ператварылася ў краіну-выклік для шэрагу эўрапейскіх структураў, палітычных постацяў і ўсіх праваабарончых арганізацыяў.

У гэтых абставінах мы, група беларускіх інтэлектуалаў, людзей мастацтва й культуры, заяўляем пра свой фундамэнтальны выбар на карысьць:

— свабоднай крэатыўнасьці й вольнага мысьленьня;
— інтэлектуальнага й культурнага нон-канфармізму;
— абароны асноўных каштоўнасьцяў эўрапейскай культуры й цывілізацыі зь іхным вызначальным пасланьнем:

## СВАБОДА

У цяперашняй сытуацыі мы ня маем іншых сродкаў у абароне й сьцьвярджэньні гэтых прынцыпаў, апрача нашай рашучасьці, прагі свабоды й веры ў вольную маніфэстацыю й выражэньне чалавечае стваральнасьці.

У нашым змаганьні за свабоду ў Беларусі мы глыбока верым у стваральную й дэмакратычную будучыню нашай краіны ў супольнай Эўропе.

Мы зьвяртаемся да інтэлектуалаў і людзей культуры й мастацтва ўсіх эўрапейскіх краінаў з заклікам заманіфэставаць сваю падтрымку Дэклярацыі й паставіць свае подпісы *за* і *ў імя* беларускай і эўрапейскай свабоды.

Беларускую дэклярацыю свабоды падпісалі:

Славамір Адамовіч, Валянцін Акудовіч, Міхал Анемпадыстаў, Алесь Анціпенка, Уладзімер Арлоў, Вацлаў Арэшка, Ігар Бабкоў, Рыгор Барадулін, Міхась Баразна, Зьміцер Бартосік, Міхась Баярын, Валеры Булгакаў, Васіль Быкаў, Пётра Васючэнка, Лявон Вольскі, Адам Глёбус, Алег Дашкевіч, Віктар Дашук, Алег Дзярновіч, Сяргей Дубавец, Андрэй Дынько, Сяргей Законьнікаў, Вячаслаў Іваноўскі, Віктар Капцыцько, Артур Клінаў, Зьміцер Колас, Кася Камоцкая, Уладзімер Конан, Мікалай Крукоўскі, Валеры Мазынскі, Зіновi Марголін, Уладзімер Мацкевіч, Ігар Мацюхоў, Мікалай Пінігін, Алесь Разанаў, Вячаслаў Ракіцкі, Дзяніс Раманюк, Іван Саверчанка, Генадзь Сагановіч, Васіль Сёмуха, Сяргей Харэўскі, Віктар Шалкевіч, Карлас Шэрман.

*Сёньня, калі ў Беларусі зноў набірае сілу канфармізм, калі «большасьць» выбірае рабства, калі таталітарызм пачынае запаноўваць у штодзённым жыцьці, беларуская культура робіць свой выбар на карысьць Свабоды.*

*Дэклярацыя адкрытая для падпісаньня як беларускімі гуманітарыямі, так і дзеячамі зь іншых краінаў. Гэта ініцыятыва, за якой стаіць праграма дзеяньняў — кансалідацыі й разьвіцьця беларускай культуры на грунце эўрапеўскіх каштоўнасьцяў і з эўрапейскім кантэксьце.*

## ЭМІГРАНЦКІЯ ВЫДАНЬНІ — У МАГІЛЁВЕ

29-га сьнежня 1997 году ў Магілёўскай Абласной Бібліятэцы адбылося адкрыцьцё выставы «Выданьні беларускага замежжа» з фондаў Музэю Гісторыі Магілёва. Аснову выставы склалі выданьні, дасланыя др. Вітаўтам Кіпелем, а таксама перададзеныя ў музэй а. А. Надсонам, Юркам Васілеўскім і ўласна музэйныя. На выставе экспанусцца каля 100 выданьняў 50—90-х гадоў, апублікаваных у Англіі, ЗША, Канадзе, Нямеччыне, Гішпаніі, Італіі, Францыі. Мастацкая, палітычная, гістарычная, музыказнаўчая літаратура, буклеты, паштоўкі, канвэрты, пэрыёдыка («Голас царквы», «Беларус», «Царкоўны пасланец», «Летапісец», «Божым Шляхам») ды інш. Выстава будзе працаваць у бібліятэцы да сярэдзіны лютага, потым яна будзе паказаная ў Магілёўскім Дзяржаўным Унівэрсытэце (былы пэдінстытут).

На адкрыцьці выставы прысутнічала шмат студэнтаў гістфаку і філфаку ўнівэрсытэту, грамадзкасьць, прэса. З прамовамі пра беларускія выданьні ў замежжы выступілі: дэкан філялягічнага факультэту ўнівэрсытэту, сябра Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі Яраслаў Клімуць і дырэктар Музэю Гісторыі Магілёва Ігар Пушкін. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч (брат Міколы Ермаловіча) распавёў пра паэту Алеся Салаўя, зь якім вучыўся ў адной школе і якому даваў чытаць свае першыя вершы. Аздобіла адкрыцьцё выставы старажытная беларуская музыка, выкананая на цымбалах студэнткамі Магілёўскага Пэдагагічнага Факультэту Беларускай Акадэміі Музыкі Аксанай Архіпавай і Вольгай Дзядкоўскай.

Падрыхтавалі выставу супрацоўнікі Музэю Гісторыі Магілёва. Аформіў выставу мастак М. Цітоў.

**Ігар Пушкін**

## ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ДЗЕЙНАСЬЦЬ СТАРШЫНІ БНФ З. ПАЗЬНЯКА

Вымушаная эміграцыя Зянона Пазьняка не аслабіла барацьбы за волю й незалежнасьць Беларусі. Становішча, калі старшыня Беларускага Народнага Фронту апынуўся за мяжой, было выкарыстана для падрыхтоўкі міжнароднай думкі на карысьць вольнай Беларусі й змагароў за яе вызваленьне. Гэтая мэта была дасягнута ў 1996 годзе. Адбыўся цэлы шэраг спатканьняў і перамоваў З. Пазьняка з амэрыканскімі палітыкамі, дзеячамі Сэнату, Кангрэсу, асобамі ў Дзяржаўным Дэпартамэнце, з грамадзкімі й праваабарончымі арганізацыямі, дадзена мноства інтэрвію журналістам, праведзеныя прэсавыя канфэрэнцыі. Вялікае значэньне меў удзел у брыфінгу ў Кангрэсе ЗША 30 кастрычніка 1996 году, прысьвечаным адмыслова становішчу ў Беларусі (выступаў з дакладам) і ўдзел у спэцыяльнай палітычнай канфэрэнцыі ў Карнэгі Фондзе, прысьвечанай праблемам Беларусі (прачытаны даклад, удзел у дыскусіі) ды інш.

Зь ліпеня 1996 году ў Варшаве З. Пазьняк пачаў выдаваць бюлетэнь *Беларускія Ведамасьці* на беларускай і польскай мовах з ангельскім рэзюмэ. Бюлетэнь распаўсюджваецца па амбасадах, парляманцкіх і ўрадавых структурах, міжнародных арганізацыях і ў Беларусі (часткова ў Амэрыцы). Бюлетэнь выдаецца на грамадзкі пачатках (коштам працы З. Пазьняка, яго карэспандэнтаў у Беларусі й ягонае жонкі Галіны ў Варшаве, якая атрымала палітычны азыль у Польшчы). Польскі правы тыднёвік *Nowe Panstwo* ўзяў на сябе клопат друку тыражу гэтага выданьня накладам 1000 асобнікаў, за што гэтай газэце й яе рэдакцыі варта выказаць шчырую ўдзячнасьць.

На працягу 1997 году З. Пазьняк меў шэраг палітычных паездак у Польшчу (прэс-канфэрэнцыі ў Сэйме, сустрэчы з палітыкамі правай арыентацыі), у Летуву (сустрэчы з старшынём парляманту Вітаўтасам Ландсбэргісам і пасобку з трыма ягонымі намесьнікамі, з кіраўніцтвам Дэпартамэнту замежнай палітыкі; З. Пазьняк ставіў пытаньні аб выпрацоўцы агульнай палітыкі адносна рэжыму Лукашэнкі).

Тройчы наведаў Украіну, дзе меў спатканьні зь міністрам замежных справаў сп. Удавенкам, потым зь яго намесьнікам сп. Бутэйкам, з кіраўніком адміністрацыі прэзыдэнта Л. Кучмы, шэраг спатканьняў у «Руху» й прэс-канфэрэнцыі (абмяркоўваліся тая ж пытаньні, што і ў Летуве).

Двойчы наведаў Чэхію. Апошні раз са спэцыяльнай праграмаю 20-24 кастрычніка. Меў спатканьні са старшынём Сэнату Пітэрам Підгардам, з кіраўнікам адміністрацыі прэзыдэнта Чэхіі Іванам Мэдэкам, з дырэктарам Усходняга Дэпартамэнту Міністэрства Замежных Справаў Ярамірам Квапілам. Дасягнутыя дамоўленасьці аб дапамозе чэхаў беларускаму руху ў міжнародных арганізацыях і структурах (Рада Эўропы, АБСЭ ды інш.). Гэтая дамоўленасьць ужо рэалізуецца. Акрамя таго З. Пазьняк меў прэсавую канфэрэнцыю ў магістрацэ Прагі, шэраг інтэрвію на тэлебачаньні, у друку, шэраг публікацыяў пра становішча ў Беларусі.

За кастрычнік-сьнежань З. Пазьняк меў тры паездкі ў Вашынгтон, спатканьні з палітыкамі й кіраўніцтвам Міжнароднага Рэспубліканскага Інстытуту, з кіраўнічымі асобамі Дзярдждэпартамэнту. Дамагаецца канкрэтнай дапамогі ад Амэрыкі беларускаму вызвольнаму руху. 11 сьнежня меў лекцыю ў палітычным камітэце «Свабода» ў Вашынгтоне для палітыкаў, прадстаўнікоў Дзярдждэпартамэнту, журналістаў. Лекцыя аб праблемах беларускай свабоды рыхтуецца да выданьня ў беларускай і ангельскай мове.

З. Пазьняк мае штодзённую сувязь зь сядзібай БНФ у Менску. 15 сьнежня БНФ пачаў кампанію й збор подпісаў за адстаўку Лукашэнкі. 20 сьнежня беларускія актывісты БАЗА й БНФ правялі ўжо чацьвертую дэманстрацыю перад будынкам ААН ў Нью-Ёрку. Гэтым разам за вызваленьне беларускіх палітзьняволеных В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага, В. Кабанчука.

На Захадзе ўжо ёсьць немалая эміграцыя палітыкаў й прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту. Тут, як і на Бацькаўшчыне, вядзецца змаганьне, высьпяваюць канцэпцыі вызваленьня Беларусі з-пад акупацыйнага рэжыму й імпэрскай палітыкі Масквы.

## ПАМЫЛКА?

2 лютага нью-ёрская польскамоўная газэта *Nowy Dziennik* у нататцы «Дар для Менску» паведаміла, што палякі зь Беластоку перадалі больш як 6 тыс. кніжак Хрысьціянскаму Таварыству Міласэрнасьці пры парафіі сьв. Сымона і Алены ў Менску (Чырвоны касьцёл).

Перадача кніг прымеркаваная да 200-й гадавіны народзінаў А. Міцкевіча, што адзначаецца ў гэтым годзе, і зьвязваецца з аднаўленьнем дзейнасьці бібліятэкі імя А. Міцкевіча, якая «ад 1892 году існавала пры касьцеле сьв. Сымона і Алена» і якую «ў 1902 годзе зачынілі царскія ўлады».

Аднак ці ведае аўтар нататкі, што менскі Чырвоны касьцёл будаваўся ў 1908—1912 гадох? Таму ніякай польскай бібліятэкі пры ім ў 1892—1902 гг. існаваць не магло.

**Ілона Урбановіч**

# ХРОНІКА

## ЧЫКАГА

77-ыя ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну беларусы Чыкага ўшанавалі 16-га лістапада 1997 г.

У царкве сьв. Юрыя пасьля Сьв. Літургіі настаяцель а. протаярэй Дзьмітры адслужыў паніхіду па ўсіх патрыётах, якія палажылі сваё маладое жыцьцё на Алтар Бацькаўшчыны. У сваёй прамове ён зрабіў агляд тагачасных падзеяў у Беларусі.

У час паніхіды ў прысутнасьці каля сямі дзясяткаў вернікаў хаўтурныя сьцягі — беларускі бел-чырвона-белы й амэрыканскі — трымалі апушчанымі вэтэраны-камбатанты змаганьня за волю Беларусі й ЗША: інвалід вайны за Беларусь Пётар Нягода й Андрэй Гушча.

Праграму ўрачыстасьці працягнулі ў парафіяльнай залі. Пасьля адыграньня амэрыканскага гімну прагучаў рэфэрат на тэму дня, дэклямацыя патрыятычнага верша А. Гаруна. Скончыліся ўрачыстасьці адсьпяваньнем беларускага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**М. Латушкін**

### КАЛЯДНЫЯ СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў ЧЫКАГА



*Настаяцель Царквы сьв. Юрыя а. Дзьм. Башко падчас Сьв. Літургіі ў дзень сустрэчы Новага 1998 году.*



*Дзіцячы хор, арганізаваны матушкай Ірынай Башко пры беларускай парафіі сьв. Юрыя, гатовы да выступу на навагоднім сьвяце.*

# ЮБІЛЕЙ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

***50 год таму пачало сваю дзейнасьць Згуртаваньне Беларусаў Канады.***

28-га лістапада 1948 г. у Таронце адбыўся сход групы беларусаў у памешканьні Нічыпара Сільвановіча. Удзельнічалі К. Акула, Б. Аранскі, Хв. Баслык, М. Кулеш, Т. Курбат, Ул. Лешык, М. Пашкевіч, Я. Пітушка, Ц. Саłановіч, Н. Сільвановіч і А. Шастаковіч.

Вось што паведамляе сваім чытачом у сьнежанскім нумары за 1948 год часапіс «Беларускі Эмігрант»:

«Патрэба ўтварэньня беларускай нацыянальна-незалежніцкай арганізацыі ў Канадзе насьпела ўжо вельмі даўно. Былі спробы яе ўтварэньня, аднак ня толькі разьбіліся гэтыя спробы, але потым нават і людзі, што ў гэтым кірунку працавалі, павярнулі ў другі бок і пайшлі на службу чужых інтарэсаў. Нягледзячы, аднак, на падступныя махлярствы камуністычных агентаў і падлыжнікаў, іхную атрутную прапаганду ды махінацыі й нашых іншых «добрых суседзяў», у Канадзе жывуць яшчэ тысячы беларусаў, што захавалі сваё нацыянальнае аблічча, любоў да бацькаўшчыны, прывязанасьць да свайго роднага, зразуменьне нядолі беларускага народу ў сучасных палітычных абставінах».

Хаця ў той час прадстаўнікі маскоўскага акупацыйнага рэжыму БССР рэпрэзэнтавалі паняволены народ у Аб'еднаных Нацыях, пра Беларусь у Канадзе, як і ў суседніх Злучаных Штатах, мала хто ведаў. Новапрыехаўшыя вэтэраны з польскіх аддзелаў брытанскай 8-й арміі ды некаторыя колішнія ДПсы зь Нямеччыны, што ўзяліся арганізаваць суродзічаў, пачыналі ўсё з нуля. У дзяржаве, для нас малаведамай, бязь ніякай падтрымкі ад суродзічаў, што раней тут пасяліліся, гэта было нялёгка.

Таронцкі сход 28 верасьня 1948 г. даў магчымасьць абмеркаваць зболынага нашыя заданьні ў Канадзе, фармальна завяршыў падрыхтоўчы працэс да ўтварэньня Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе, выбраў управу яго ў складзе: К. Акула — старшыня, М. Пашкевіч — сакратар, Я. Пітушка — скарбнік.

Падрыхтоўка-ж да гэтага пачалася куды раней і навет у іншай дзяржаве. Тут ідзе ў галоўным пра тое, што выпала на маю долю. Цытую з часапісу «Зважай» (№ 3(63), верасень, 1991 г.)

«У 1946 г. у Вялікай Брытаніі паўстала першая беларуская арганізацыя самапомачы — Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі (на гэта раней быў атрыманы дазвол ад штабу польскіх збройных сілаў, што былі пад брытанскай камандай і дзе было нас, беларусаў, звыш 30 тысячаў — **К.А.**). Мяне абралі ў часовую Галоўную Ўправу ЗБВБ. Дзеля таго, што ў чэрвені 1947 г. я выехаў у Канаду, управа ЗБВБ запранавала мне заняцца арганізаваньнем нашых суродзічаў у гэтай краіне й падала мой адрас для сувязі ў часапісе «На Шляху».

Працаваў я тады на фарме ў Ашаве (45 км на ўсход ад Таронта). Ліставаўся з суродзічамі, што адраблялі кантракты на фармах і ў пушчах. Прасілі інфармацыяў. У лютым 1948 г., пераіўшыся зь сябрамі, купіў я ў доўг машынапіску й рататар. Гэтак нарадзіўся часапіс «Беларускі Эмігрант». Дзякуючы яму, людзі атрымлівалі розныя патрэбныя інфармацыі пра Канаду, Беларусь, нашых выгнаньнікаў за межамі... Кожны месяц выдаваўся «Беларускі Эмігрант». У жніўні 1949 году, зь ініцыятывы ЗБК, ў Таронце залажылі Беларускі Выдавецкі Фонд, і «Беларускі Эмігрант» ад таго часу аж да красавіка 1954 г. выходзіў у форме газэты».

Сёньня, калі сягаеш позіркам на паўстагодзьдзя назад, Згуртаваньне Беларусаў Канады бачыцца перш за ўсё як асноўны рухавік бальшыні ўсяго беларускага ў Канадзе. ЗБК — таксама й база, зь якой пасьля дапамагалі будаваць Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Царкву. ЗБК гуртавала вакол сябе беларускіх патрыётаў. Зь іншага боку — яно сталася мішэняй, якую атакавалі агенты бальшавіцкае Масквы й Бээсэсэрыі ды іншыя, што бралі свой роп і натхненьне «от лукавого».

Віншую сяброў ЗБК і супрацоўнікаў з залатым юбілеем.

**К. Акула**

## НАВІНКІ ІНТЭРНЭТУ

Зьявілася новая старонка, прысьвечаная Віцебску (**http://www. belpak. vitebsk.by**). Пра стары й новы горад, Марка Шагала, часапіс Беларускага аб'яднаньня гэбрайскіх арганізацыяў «Мішпоха». Вось каб-жа толькі менш было прарасейшчыны!

«Беларуская палічка», пра якую мы пісалі ў папярэднім нумары (**http://www.wu-wien.ac.at/groups/belarus**), пабагацела на новыя кнігі: **Славамір Адамовіч. *Каханьне пад акупацыяй*** (электронная вэрсія зборніка зьмяшчае таксама вершы, што не патрапілі на ягоныя старонкі, у тым ліку такія знакамітыя, як «Убить президента», «Рукі назад!» ды іншыя) і **Ян Чачот. *Выбраныя творы*** з сэрыі «Беларускі кнігазбор».

Старонка з газэтамі «Имя», «Белорусская деловая газета», «Белорусский рынок» ды іншымі зьмяніла адрас: **http://press.net.by**.

Шмат каго можа зацікавіць старонка Беларускай Бібліятэчнай Асацыяцыі (**http://kolas.bas-net.by/**). Яна вельмі інфарматыўная. Дарэчы, карыстальнікі Інтэрнэту лёгка могуць спраўдзіць наяўнасьць той ці іншай беларускай кнігі ў Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэцы. Яе каталёг — на **http://catnyp. nypl.org/search/**.

Таксама мы вырашылі зьмяшчаць электронныя адрасы беларускіх установаў, арганізацыяў, выданьняў на эміграцыі. Сёньня падаем e-mail *Царкоўнага пасланца*: **belautoc@ix. netcom. com**, *Belarusian Review*: **BelReview@ aol.com.**

Ня з новых старонак, але вельмі вартасных — беларуская старонка «Радыё Свабода» (**http://www.rwerl.org/bd/ be/index.html**). Тут знойдзеце навіны з газэты «Свабода» ў беларускай і ангельскай мовах, а таксама штодзень а 3-й гадзіне можаце слухаць навіны, заладаваўшы адпаведную праграму — *RealAudio*.

Самая прыемная навіна — зьявілася АНТЫЛУКАШЭНКАЎСКАЯ старонка (**http://www.aubg.bg/cj/~vlk960/ belarus/lukash.htm**) на *Free Belarus On-Line*. Яна называецца *The Dossier on: A. G. Lukashenko. President of the Republic of Belarus 1994-XXXX' Known nicknames: Luka, Lukasz, Dictator, Father-of-the-nation, President-For-Life, Father, Bac'ka, Him, Lysina z naczosam, etc...* З цалкам сур'ёзнымі матар'яламі суседнічаюць нестандартныя здымкі.

## ПРЫЕМНАСЬЦЬ УЛАДАЛЬНІКАМ СКАНЭРАЎ



Днямі пачаўся продаж новай праграмы распазнаваньня тэкстаў Universal OCR[98] (на здымку). Яна дазваляе працаваць з 33-ма мовамі, сярод якіх ёсьць і беларуская! Скончыліся пакуты беларускіх уладальнікаў сканэраў, што для расчытваньня тэкстаў, пісаных па-беларуску, змушаныя былі карыстацца праграмамі, прызначанымі для распазнаваньня расейскае кірыліцы.

Новая праграма будзе вельмі прыдатная й для навукоўцаў-лінгвістаў, найперш славістаў, бо яна можа працаваць з амаль усімі славянскімі мовамі, а таксама з грэцкай, усімі скандынаўскімі й цэнтральна-ўсходнеэўрапейскімі, летувіскай, эстонскай і г.д.

Кошт прадукту $89.99.

# НОВЫЯ КНІГІ




Напрыканцы мінулага году ў Менску выйшла кніга ***За кіпучай чэкісцкай работай: з жыцьця катаў*** (190 с.; наклад 1000 асобнікаў). Яна зьявілася клопатам Беларускага Гуманітарнага Фонду «Наша Ніва» ў сэрыі «Архіву Найноўшае Гісторыі».

Аўтар — Аляксандар Лукашук, былы журналіст газэты «Зьвязда», а цяпер супрацоўнік радыё «Свабода». У «пасьляпутчаўскую» эпоху (1991 год) ён уваходзіў у склад Камісіі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь па рэабілітацыі??, і яму было дазволена (праўда, даволі непрацяглы час) знаёміцца з архіўнымі справамі ЧК–ОГПУ–НКВД–КГБ. Гэтыя матар'ялы й склалі аснову кнігі.

Кніга складаецца зь пяці разьдзелаў-нарысаў, у якіх паказаныя суворыя будні ідэйных нашчадкаў Фэлікса Крывавага. Перад намі не толькі каты, але й іх ахвяры: сяляне, былыя савецкія актывісты, навукоўцы, людзі мастацтва, нядаўнія каты-энкавэдысты, што самі сталіся ахвярамі людажэрнае сыстэмы.

Радкі даносаў называюць нам імя яшчэ аднаго зь герояў Слуцкага Збройнага Чыну — Міхаіл Бунцэвіч: «У 1920 годзе, пры арганізацыі Беларускай Рады, выступаў супраць Савецкай улады і змагаўся супраць Чырвонай Арміі. Каля мястэчка Семежава, пад націскам чырвонармейскіх частак крычаў паўстанцам не адступаць, а змагацца да апошняга, і калі іх атрад быў разьбіты, Бунцэвіч Міхаіл пасьпеў схапіць сьцяг Беларускай Рады, які цяпер захоўваецца ў яго альбо яго брата Піліпа, арыштаванага органамі НКВД».

Здаецца, упершыню апублікаваны сьпіс беларускіх кніг, забароненых загадам Галоўліту ад 3 чэрвеня 1937 г. У лік шкодных трапілі ня толькі працы нацдэмаў, праграмы нацыяналістычных партыяў, але і творы «пачынальнікаў» — Я. Баршчэўскага, В. Дунін-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча.

Незразумела, якімі меркаваньнямі кіраваліся цэнзары, калі ўносілі ў сьпіс такія пазыцыі: «Абісінія як яна ёсьць», «Карантын расьлін і значэньне яго ў справе пад'ёму ўраджайнасьці», «За правільнае і беражлівае скарыстаньне каня», «Змаганьне за асеньнюю сяўбу і зяблівае ворыва», «Ударная брыгада ў дзіцячым садзе», «Культура цукровых буракоў БССР», «Памятка па арганізацыі севазвароту ў прамысловасьці й сьвінасаўгасах», «Зьнішчым шкоднікаў ільну й канапель». Відаць, паводле бальшавіцкае лёгікі, М. Гарэцкі, В. Ластоўскі, Ул. Ігнатоўскі й былі тымі шкоднікамі, што зьнішчылі нямераны ўраджай калгаснага ільну й канапель і падарвалі севазварот пралетарскіх сьвінаматак...

Апошні, шосты разьдзел — «Курапатчыкі» — уяўляе сабою сьпіс супрацоўнікаў НКВД БССР паводле стану на 1937 год.

Нажаль, у разьдзеле пра «навуковую» дзейнасьць колішняга дырэктара Інстытуту Літаратуры АН БССР В. Барысенкі аўтару не ўдалося пазьбегчы празьмернага самацытаваньня. Аднак у цэлым кніга аказалася пазнавальнаю, насычанаю новымі фактамі, а ў сёньняшніх беларускіх варунках — і вельмі актуальнаю.

**Зьм. Саўка**

• • • • • • • • •

**Сакрат Яновіч. Дзёньнікі (1987-1995). Беласток, 1997.**

*Указваючы на памылкі,*
*самі дапускаюць іх нямала,*
*гэтыя рэцэнзійнікі са складам*
*думак ліцэістаў*
*С. Яновіч (с.30)*

Мэмуары неадменна прываблiваюць увагу чытачоў: каму не карціць пачуць ад ўдзельніка пра падзеі, якія абмінулі цябе самога, пра людзей, якіх наўрад ці зьведаеш сам, пра далёкія краіны. Тым больш, калі аўтарства належыць такому знанаму майстру слова як Сакрат Яновіч — заўсёды ў віры падзеяў, заўсёды ў змаганьні. Тым больш, што прадмова Т. Занеўскай называецца «Вартавы нацыянальнай памяці»!

«Дзёньнікам» сапраўды наканавана застацца ў нашай літаратуры. Па-першае, яны нарэшце адказваюць на пытаньне — а дзе-ж сапраўдная Беларусь? Выключна на Беласточчыне, сьцьвярджае іх аўтар. На Беларусі — адныя «саветы». «Сёньня наведалася да мяне дзевяціасабовая група маладых гісторыкаў з Беларусі. ... Утомна сустракацца з саветамі. Склалася ў мяне такое ўражанне, што гэтыя гісторыкі не надта цямілі, да каго іх прывезлі» (с.197). Або з нагоды прыезду маладога дасьледчыка беларускай літаратуры: «Усіх матэрыялаў, выданняў я яму не пашкадаваў. Толькі, часам, думаецца, ці быў сэнс? Ці ёсць сэнс нешта наагул даваць саветам?» (с.27). А што робіцца на эміграцыі. О, тут спадару Яновічу магліб пазайздросьціць сумнай памяці А. Бажко ды Л. Прокша.

«Пасылаю Кіпелю шмат чаго. Ці ёсьць сэнс? Толькі такі, што гэта будзе на захаванні ў Публічнай бібліятэцы Нью-Йорка. Самі яны, эмігранты, мала цікавяцца ды разумеюць, — займаюцца сваімі праблемікамі. Некалі думаў я, што такая безуважнасць наглядаецца ў адной Скарынінцы, бо ў ёй няма каму. Не дадумаўся тады, яшчэ не ведаючы Амерыкі, што гэта тыповая рыса ўсяе эміграцыі ды, відаць, усіх эміграцыяў. Перш за ўсё змагаюцца яны за быт, а пачуццё нейкай місіі мусіць быць пасля, калі не цалкам другараднае» (с.68).

Даводзіць сп. Яновічу, што для эміграцыі больш ці менш істотнае, ня варта, тым больш, што пра сапраўднае становішча рэчаў ён ня мае аніякага ўяўленьня. Але тут да месца будзе зьвярнуць увагу на пытаньне грашовае: у ягоным-жа дзёньніку часта-густа сустракаюцца нараканьні, што, прыкладам, Разанаў даслаў за публікацыю ў «Крыніцы» толькі $4.

Аўтарка прадмовы, дарэчы, крыху памылілася, калі сьцьвярджала, што «апошні запіс [...] змяшчае радасную навіну аб нараджэнні чарговага ўнука, а гэта можна палічыць таксама сімвалічнай падзеяй, якая нясе надзею на адраджэнне беларускасці менавіта ў пакаленні ўнукаў». Апошні запіс такі: «знясільваючыя дні: мноства публіцыстычнай пісаніны за сабачы грош». Гэта што пра грошы і ідэю.

Або наступны пасаж: «Беларуская эміграцыя тамака — тая ж вёска. Маладое пакаленне, акрамя рэдкіх выключэнняў, асімілявалася (па-беларуску ні «бэ», ні «мэ»!). А старыя за грашыма свету не бачаць. Нельга разлічваць на іхную помач, прынамсі, матэрыяльную, якая была б да крайнасці просценькая з іх боку, калі памятаць, што за ... аднадзённы заробак у ЗША магчыма пражыць аж паўгода ў ПРЛ» (с.50).

І далей, пра прыезд на Кангрэс беларусаў Паўночнае Амэрыкі: «Цяпер будзе наўрад ці рэальным. Мне гэта якраз адпавядае — не для мяне і не для нашай тут справы патрэбны быў бы мой удзел у Кангрэсе, але я — таму Кангрэсу. Ахвотна прыпазнюся!» (с.53). А мы й ня ведалі.

Калі што й ёсьць тут у нас добрае — гэта сапраўдныя беларусы з Беласточчыны: «У актыве беларускай эміграцыі наогул усё болей людзей з Беласточчыны, дзякуючы якім прадоўжыць яна сваю жыццяздольнасць. Прычым, на якасна лепшым узроўні, не такім прасцяцкім. Вось як!» (с.56).

Зрэшты, цытаваць можна бясконца: як аўтар больш вырашыў ня зьвязвацца з саветамі, бо «гэтыя людзі адтуль у сваёй пераважнасці нейкія тупыя, разявістыя, незарыентаваныя ў свеце культуры» (с.164), пра Я. Пятроўскага, М. Прускага. Уражвае ня толькі безапэляцыйнасьць цьверджаньняў, а нейкая нешляхотная, неэўрапейская манэра выказвацца пра людзей, зь якімі аўтару давялося сустракацца, хто прыходзіў да яго ў госьці або сам прымаў у сябе, хто зьвяртаўся па дапамогу ці параду.

Ад кнігі застаецца пачуцьцё няёмкасьці за аўтара ды натуральнае абурэньне. Як напісаў С. Яновіч (праўда, зноў пра іншых), «іначай не назавеш гэтага з майго боку як расчараванием, жалем».

*Заўвага: цытаты падаюцца ў правапісе арыгіналу.*

**Л. Юрэвіч**

## АХВЯРАВАНЬНІ

### На выдавецкі фонд «Беларуса»

| | |
|---|---|
| К. і А. Мерляк | ам. дал. 100 |
| др. Ю. Набагез | 100 |
| Б. О. Паўк | 50 |
| Я. Жучка | 50 |
| У. і А. Русак | 50 |
| А. Шукелойць | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| Р. І В. Зыбайла | 50 |
| Б. і Ю. Касьцюкевіч | 50 |
| В. і А. Нікіфаровіч | 50 |
| Л. Бляленіс і К. Пануцэвіч | 50 |
| Г. Сянькевіч | 50 |
| М. Каленік | 50 |
| М. Дубоўскі | 50 |
| Л. Д. | 50 |
| Н. і Л. Чупракаў | 40 |
| А. Філістовіч | 30 |
| Л. Шурак | 30 |
| К. і Т. Верабей | 25 |
| М. Клакоцкі | 25 |
| Н. Міцкевіч-Касмовіч | 13 |
| П. Кулеш | 10 |

*Фінансавая спраздача ад С. Трыгубовіча*

**За студзень**

| | |
|---|---|
| Б. Рагуля | ам. дал. 206 |
| А. Кіпель | 200 |
| М. Абрамчык | 100 |
| Л. Літаровіч | 100 |
| А. Монід | 100 |
| Л. Кавалёў | 60 |
| І. Аўдзей | 50 |
| М. Каранеўскі | 50 |
| Л. Колін | 50 |
| І. Цупрык | 50 |
| В. Кажан | 30 |
| Я. Яновіч | 30 |

*З Аўстраліі (аўстр. дал.)*

| | |
|---|---|
| Беларускае Аб'еднаньне ў Заходняў Аўстраліі | 130.85 |
| Ф. Дарэўскі | 50 |
| А. Бразоўскі | 50 |
| А. Мароз | 50 |
| М. Мароз | 50 |
| М. Мігал | 50 |
| А. Ніжнік | 50 |
| М. Раецкі | 50 |
| В. Ласкевіч | 40 |
| М. Раецкі-старэйшы | 30 |
| Разам | ам. дал. 400 |

*Замест кветак на сьвежую магілу др. Ф. Романо*

| | |
|---|---|
| Др. У. Набагез | ам. дал. 50 |
| У. і А. Русак | 50 |

### На дзейнасьць Галоўнае Управы БАЗА

| | |
|---|---|
| Л. Колін | 200 |
| В. і З. Кіпель | 200 |
| К. Романо | 100 |
| А. Романо | 100 |
| Л. Норык | 100 |
| В. і Г. Русак | 100 |
| А. Шукелойць | 100 |

### На выдавецкі фонд БІНІМу

| | |
|---|---|
| В. Махнач | ам. дал. 500 |
| М. Занкавіч (Францыя) | 250 |
| Т. і А. Кольба | 100 |
| Л. Стагановіч | 100 |
| др. А. Занкавіч | 75 |
| П. Алексы | 50 |
| Р. Завістовіч | 50 |
| Л. Колін | 50 |
| А. і Н. Непеіны | 50 |
| А. Субота | 50 |
| Я. Азарка | 50 |
| К. Каранеўскі (Канада) | 50 |
| І. Буцько (Канада) | 50 |
| Л. і Л. Літаровіч | 50 |
| Л. Норык | 50 |
| Хв. Кажаневіч (Англія) | 30 |
| С. Янкоўскі | 25 |
| К. Якаўлеў | 25 |
| В. Камінскі | 20 |